### У НУМАРЫ



# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК





№ 46 (768) БЕЛАСТОК 15 ЛІСТАПАДА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## КОНКУРС „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-71"

Конкурс аб'яўляецца з нагоды 15-годдзя БГКТ.

I. Арганізатары — ГП БГКТ і «Ніва», суарганізатары: ЗМВ, ВЗГС, аддзел культуры, ПУПіК «Рух», клубы, пажарная ахова, сельскагаспадарчыя гурткі, ВКЗЗ.

У сувязі з арганізацыяй конкурсу неабходна наладзіць сувязь з вышэй пададзенымі ўстановамі і стварыць арганізацыйныя камітэты.

II. Конкурс мае тры ступені:

а) мясцовыя элімінацыі;

б) элімінацыі ў аддзелах;

в) цэнтральныя элімінацыі.

III. Мэтай конкурсу з'яўляецца папулярызацыя беларускай песні ў самых шырокіх колах грамадскасці, а асабліва сярод моладзі і ў асяроддзі аматарскага мастацкага руху. Заслугай конкурсу мае быць увядзенне беларускай песні ў святліцы, клубы і дамы культуры, а таксама ўключэнне яе ў рэпертуар харавых калектываў не толькі ў асяроддзі беларускай меншасці, але таксама ў змешаным асяроддзі і ў асяроддзі польскім.

IV. У конкурсе могуць прымаць удзел аматары-салісты і дуэты. Па-за конкурсам у паасобных элімінацыях могуць прымаць удзел прафесіянальныя спевакі, спевакі — абсальвенты і студэнты харавых аддзяленняў музычных школ.

V. Узрост удзельнікаў — ад 16 гадоў і больш.

VI. Кожны ўдзельнік абавязаны падрыхтаваць дзве песні на беларускай мове.

VII. Мясцовыя элімінацыі павінны быць вынікам шырокай прапагандысцкай работы ў паасобных асяроддзях, грамадах, школах, установах, святліцах, дамах культуры і г.д.

Мясцовыя элімінацыі неабходна правесці ў месяцах лістападзе — снежні 1970 года.

Элімінацыі ў аддзелах неабходна правесці ў месяцы студзені 1971 года.

Спіс лаўрэатаў элімінацый у аддзелах, якія занялі I, II і III месцы, павінен быць прысланы ў ГП БГКТ да дня 10 лютага 1971 года.

Цэнтральныя элімінацыі адбудуцца ў месяцах лютым — сакавіку 1971 года ў ГП БГКТ.

VIII. Для ацэнкі ўдзельнікаў конкурсу арганізацыйныя камітэты паасобных элімінацый вызначаюць журы, якое складаецца з 3—7 асоб.

IX. Журы ацэньвае ўдзельнікаў паводле наступных крытэрыяў:

валёры голасу ад 1 да 10 пунктаў;

інтэрпрэтацыя ад 1 да 10 пунктаў;

падборка рэпертуару ад 1 да 10 пунктаў.

Максімальная колькасць пунктаў — 30.

X. Журы прызнае для лаўрэатаў элімінацый узнагароды ад арганізатараў і суарганізатараў.

XI. Кошты падарожжа для ўдзельнікаў элімінацый у аддзелах і цэнтральных элімінацый пакрываюць арганізатары і суарганізатары адпаведных элімінацый.

XII. Удзельнікі ўсіх элімінацый могуць выкарыстоўваць наступныя зборнікі беларускіх песень:

1. «Радзіма мая дарагая» — песні беларускіх кампазітараў. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1967 год.
2. «Песні савецкага часу». Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1970 год.
3. «Лірычныя песні» — для мастацкай самадзейнасці — гадавікі.
4. Беларускія песні, змешчаныя на старонках тыднёвіка «Ніва», органа ГП БГКТ.
5. Песні, змешчаныя ў календарах і іншых вы-
6. Рэгіянальныя песні і іншыя крыніцы.

даннях ГП БГКТ.



*Удзельніцы фінальнага канцэрта «Беларуская песня — 1970» — сёстры Еўдакія Наваксўская і Анна Кубай з Бельска. Фота Цаф — Сянько*



*У клубе «Руху» ў Харошчы.*

ДА 20-ЦІГОДДЗЯ ДЗЕЙНАСЦІ «РУХУ»

## ГАНДАЛЬ І КУЛЬТУРА

Мы ўжо прывыклі, што амаль на кожнай вуліцы, што недалёка ад нашага памяшкання, што ў многіх вёсках знаходзяцца кіёскі прадпрыемства «Рух». Кіёскі і клубы. У Гайнаўскім павеце ёсць зараз 30 кіёскаў і 22 клубы. У Бельскім павеце 32 кіёскі і 19 клубаў. Кіёскі існуюць у Белавежы, Нараўцы, Чаромсе, Нарве, Дубінах, Чыжах, Кляшчэлях, Клейніках, Махнатым, Новым Беразове, Курашаве, Семяноўцы, Тапчэве, Боцьках, Бранску, Рудцы, Орлі, Цеханоўцу, Страблі і ў многіх іншых вёсках і пасёлках. Клубы дзейнічаюць у Моры, Кузаве, у Луцэ, Арэшкаве, Ласінцы, Белавежы, Траецянцы, на станцыі Чаромуха, у вёсцы Тапоркі, Істок, Адрынкі, Масева, Старое Ляўкова, Палічна, Старое Беразова, Сухавольцы, Тыневічы Малыя, Навасады, Дабрыводы, у Рудцы, Страблі, Аўгустове, Орлі, Піліках, а таксама ў многіх іншых мясцовасцях. Ды дарэмна пералічваць. У кожным мястэчку, у кожнай вялікай вёсцы спадзяемся знайсці — і знаходзім! — або кіёск, або клуб прадпрыемства распаўсюджвання друку і кніжкі «Рух». Да гэтых кіёскаў амаль штодзень ходзім за мылам, за парашком да мыцця вопраткі, за крэмам і памадкамі, за алоўкамі і сшыткамі, за газетамі і кніжкамі... Ізноў немагчыма ўсяго пералічыць. У тыповым шараблакітным кіёску «Рух», які стаіць ля нашай вуліцы, можна купіць можа 400 розных прадметаў і прадуктаў. Гэта найбольш масавы, найбольш даступны гандаль у нашай краіне. Дык не здзіўляюся словам пані Ванды Замараеў:

— Гавару вам, што ў нас, у Бельску, ды не толькі ў Бельску — у кожнай іншай мясцовасці — цяжка зараз гаспадыні ўявіць сваё жыццё без суседства кіёску «Рух». Гэта ж падручныя магазіны, якія адкрыты ад самай раніцы да позняга вечара, у якіх можна атрымаць кожную дробязь.

Пані Ванда Замараеў ужо амаль 20 год, як звязала свой лёс з прадпрыемствам «Рух». З'яўляецца жывой яго хронікай. Пачала працу ў Беластоку яшчэ ў 1951 годзе, цяпер працуе бухгалтаршай у Бельскім раённым аддзеле «Руху».

— Пане, — гаворыць яна, — параўнання няма з тымі часамі! Тады прадаўцы самі аж у Беласток прыязджалі за таварамі. Памятаю я вось такіх прадаўцоў, як Зофія Жэпнеўская з Бранска або Яніна Шавінская з Цеханоўца. Яны яшчэ зараз працуюць, дык могуць пацвердзіць. І коштаў падарожжа ніхто ім тады не звяртаў, і за тавар, які яны бралі ў свае кіёскі, таксама трэба было адразу плаціць грашыма. А цяпер... Што там гаварыць! Вядома, лепш не хварэць, калі

(Працяг на стар. 4)

## БГКТ ХРОНІКА

■ Гурток БГКТ у Наройках (Беластоцкі павет), які ўзначальвае Галіна Пацкевіч, разгарнуў шырокую дзейнасць і цікавіцца ўсімі справамі сваёй вёскі. Нядаўна ён арганізаваў гурток ЗМВ. Старшынёю гуртка ЗМВ моладзь выбрала Галіну Пацкевіч. Галіна Пацкевіч і другі актывіст БГКТ са Скраблякоў, Грэсь Лісавец, былі галоўнымі арганізатарамі выбарчай канферэнцыі ў грамадзе Зубкі, якая адбылася ў Свіслачанах 18 кастрычніка. У гэты дзень моладзь з самай раніцы паехала на грамадскі чын — пры выкопках бульбы ў спулдзельні прадукцыйнай у Зубрах, а пасля абеда была на канферэнцыі. Удзельнікі канферэнцыі накрэслілі напрамкі працы ЗМВ у грамадзе Зубкі і выбралі праўленне на чале з Галінай Пацкевіч — актывісткай БГКТ. У гэтай канферэнцыі прынялі ўдзел: сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк і намеснік старшыні павятовага праўлення ЗМВ Лешак Калеснік.

■ Выдавецкая камісія ГП на сваім пасяджэнні 19-га кастрычніка абмеркавала і зацвердзіла да друку 1) зборнік вершаў Уладзіміра Гайдука, 2) літаратурныя матэрыялы да альманаха, 3) структуру календара на 1972 год і 4) выбрала новага пастаяннага рэдактара беларускіх календароў — Георгія Валкавыцкага — галоўнага рэдактара тыднёвіка «Ніва».

■ 20 кастрычніка пасяджэнне камісіі асветы ГП складалася з наступных пунктаў: а) абмяркоўка форм далейшага супрацоўніцтва ГП БГКТ з кафедрай інстытута украінскай, рускай і беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, б) зацвярджэнне тэматыкі конкурсаў для школьнікаў у бягучым навучальным годзе, в) абмяркоўка форм працы БГКТ са студэнцкай моладдзю, г) магчымасці арганізацыі конкурсаў для дарослых, д) справаздача аб стане рэалізацыі раней прынятых пастаноў камісіяй асветы.

■ 21 кастрычніка сакольскі аддзел БГКТ арганізаваў сустрэчы насельніцтва з журналістамі «Нівы»: М. Хмялеўскім, У. Паўлючуком і Я. Чэрнякевіч у вёсках: Гаркавічы, Сухінічы і Кнышэвічы.

■ У днях 23—25 кастрычніка кіраўнік Этнаграфічнага музея БГКТ Уладзімір Гацута выступаў з дакладам на тэму «Што такое этнаграфія» ў Белавежы на нарадзе для кіраўнікоў клубаў Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў, б) у доме культуры ў Гайнаўцы і ў Этнаграфічным музеі БГКТ у Белавежы.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 24-га кастрычніка арганізаваў аўтарскую сустрэчу для студэнцкай моладзі з паэтамі Алесем Барскім, Віктарам Шведам і Янкам Чыквінам. У сустрэчы прыняло ўдзел каля 200 чалавек.

■ 25-га кастрычніка ў вёсках Дуброўшчыны: Хілімонах і Крапіўне адбыліся аўтарскія сустрэчы з насельніцтвам паэтаў Алеся Барскага, Віктара Шведа і Янкі Чыквіна. Пасля іх выступаў драмгурток з Сухініч (Сакольшчына).

■ Галоўнай тэмай пленума бельскага аддзела (25.X.) было: «Задачы аддзела ў развіцці аматарскага руху». Даклад чытаў намеснік старшыні праўлення Язэп Альшэўскі.

■ 30-га кастрычніка ў памяшканні ГП адбылося спатканне журналістаў «Нівы» з сакратаром ГП Янкам Зенюком, які паінфармаваў аб актуальных працах ГП. (мх)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### 53-ЯЯ ГАДАВІНА

На цэлым свеце адбываліся ўрачыстасці звязаныя з 53-яй гадавінай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

У Маскве 7 кастрычніка адбыўся ўрачысты парад войск і дэманстрацыя насельніцтва. Напярэдадні гадавіны ў крамлёўскім палацы з'ездаў, які змяшчае 6 тыс. асоб, адбылося ўрачыстае пасяджэнне. У пасяджэнні прынялі ўдзел Леанід Брэжнеў, Аляксей Касыгін, Мікалай Падгорны і іншыя кіраўнікі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

З дакладам «Пад сцягам Вялікага Кастрычніка да перамогі камунізма» выступіў член Палітбюро ЦК, сакратар ЦК КПСС Міхаіл Суслоў.

Гаворачы аб падпісанні дагавору між СССР і ФРГ і аб размовах, якія адбываліся між Польшчай і ФРГ на тэму падпісання дагавору, М. Суслоў сказаў, што ў даны момант няма ніякіх перашкод для склікання агульнаеўрапейскай канферэнцыі ў справе бяспекі нашага кантынента.

### ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ З КНР

Італія як дзевятая заходняя дзяржава навязала дыпламатычныя адносіны з Кітайскай Народнай Рэспублікай.

Італьянскі ўрад прыняў да ведама сцвярджэнне ўрада КНР, што Тайван з'яўляецца часткай тэрыторыі КНР. Італьянскі ўрад лічыць урад КНР за адзіны легальны кітайскі ўрад.

Пасол Тайвана ў Італіі заявіў, што яго ўрад парывае дыпламатычныя адносіны з Італіяй.

Ліванскі міністр інфармацыі заявіў, што яго ўрад разглядае магчымасць дыпламатычнага прызнання Кітайскай Народнай Рэспублікі і ГДР.

### ТЫСЯЧЫ МІЛЬЯРДАЎ

Пачынаючы ад 1945 года, Злучаныя Штаты выдалі на ваенныя мэты 1.100 мільярдаў долараў. З гэтага ліку 150 мільярдаў долараў паглынула в'етнамская вайна.

На працягу 25 гадоў ад пачатку атамнай эры ідэолагі правячых колаў ЗША прапагандуюць т.зв. сусветную місію ЗША, гэта значыць, панаванне над светам пры дапамозе мілітарнай магутнасці.

### ПРЫВАТНАЯ МАТАРЫЗАЦЫЯ

Прадбачваецца, што ў канцы гэтага стагоддзя на кожную тысячу жыхароў Савецкага Саюза будзе прыпадаць 200—300 прыватных аўтамабіляў, не лічачы камунальных сродкаў транспарту.

### ДЗЕ І КОЛЬКІ?

У канцы 1968 года зарэгістравана ў Злучаных Штатах 80.458.000 легкавых аўтамабіляў, у ФРГ — 12.045.000, у Францыі — 11.210.000, у Вялікабрытаніі — 10.836.000, у Галандыі — 2.073.000, нават у маленькай Даніі — 955.000. У той жа час у паветры над ФРГ было восем мільёнаў тон аўтамабільнага дыму, а ў Злучаных Штатах амаль сто мільёнаў.

(ак)



## БССР

### ФАБРЫКА-ЮБІЛЯР

Сто год таму назад Добрушская папяровая фабрыка была паўсаматужным прадпрыемствам па перапрацоўцы рыззя. Жывуць яшчэ людзі, якія памятаюць дарэвалюцыйную фабрыку. К пачатку 40-х гадоў фабрыка стала буйнейшым папераробчым прадпрыемствам рэспублікі і перад Вялікай Айчыннай вайной выпусціла 36,1 тысячы тон паперы і 300 мільёнаў вучнёўскіх сшыткаў. Цяпер «Герой працы» выпускае 67 працэнтаў саюзнай вытворчасці чарцёжнай і 50 працэнтаў паперы для малявання.

### КНІЖНАЯ СКАРБНІЦА

Гродзенская абласная бібліятэка — адна са старэйшых у рэспубліцы. Яна адкрылася ў верасні 1830 года і папаўнялася за кошт кніг і часопісаў, якія паступалі ад прыватных асоб і рэдакцый. Доступ у яе мела толькі абмежаванае кола людзей. У 1837 годзе чыноўнікам і памешчыкам тут выдалі 91 твор, чытачоў было ўсяго 40 чалавек.

У сучасны момант у Гродзенскай абласной бібліятэцы імя Я. Карскага некалькі чытальных залаў. Яе літаратурны фонд — 277 тысяч кніг. Штогод ён павялічваецца на 21—22 тысячы тамоў.

### НА РАДЗІМЕ КУПАЛЫ

Здаўна славяцца сваім хараством ваколіцы Радашковіч. Меднастволыя бары змяняюцца празрыстымі бярозавымі гаямі, крынічныя рэчкі не замярзаюць нават у сцюжу, а ў лагчынах паміж узгоркамі туляцца маляўнічыя вёсачкі, і сярод іх — Вязынка, радзіма Янкі Купалы. Гэты край быў калісьці калыскай паэта.

### БЕЛАРУСКАЯ НАФТА

Далей і далей у глыбіню Палесся крочаць буравыя вышкі нафтаразведчыкаў. Нядаўна буравікі з брыгады Эдуарда Хілімоненкі і геафізікі сталі сведкамі нараджэння новага магутнага фантана «чорнага золата» на Давыдаўскай плошчы. Вялікія пошукавыя работы на нафту вядуцца таксама на Вішнянскай плошчы.

### НОВЫ ФІЛЬМ

На кінастудыі «Беларусьфільм» заканчваецца работа над тэлевізійным фільмам «Дзень ды ноч». Расказвае ён аб сучаснай моладзі, аб сустрэчы двух пакаленняў, аб людзях, якія прайшлі вайну, і юнаках і дзяўчатах, што ўступаюць у жыццё.

### ЮБІЛЕЙ ГАЗЕТЫ

У Мінску, у клубе журналістаў, 2 лістапада адбыўся ўрачысты сход супрацоўнікаў газеты «Мінская праўда» і шматлікага аўтарскага актыву, прысвечаны 20-годдзю газеты і ўзнагароджанню яе Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. З дакладам «20-цігоддзе «Мінскай праўды» выступіў рэдактар газеты М. А. Суша.

(вр)

## ПОЛЬШЧА

### ГАДАВІНА КАСТРЫЧНІКА

З нагоды 53-яй гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 6 кастрычніка ў сядзібе савецкага пасольства ў Варшаве адбыўся ўрачысты прыём. Прынялі ў ім удзел члены найвышэйшых партыйных і дзяржаўных улад з У. Гамулкам, М. Спыхальскім і Ю. Цыранкевічам на чале. З урачыстым тостам выступіў пасол СССР у Польшчы А. Арыстаў, які падкрэсліў перш за ўсё значэнне СССР у абароне міру і бяспекі сацыялістычных краін, а таксама значэнне польска-савецкай дружбы.

### СПРАВАЗДАЎЧАЯ КАМПАНІЯ

Ужо некалькі тыдняў ідзе справаздаўча-выбарчая кампанія ў радах Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Пасля заканчэння сходаў у пярвічных партыйных арганізацыях пачнуцца павятовыя справаздаўча-выбарчыя канферэнцыі. Кампанія закончыцца ў студзені і лютым 1971 года выбарамі ўлад ваяводскіх камітэтаў партыі. У ходзе справаздаўча-выбарчай кампаніі ўвага партыйных арганізацый канцэнтруецца перш за ўсё на тым, як на працягу 2 мінулых гадоў выконвалі яны пастановы V з'езда партыі і чарговых пленарных пасяджэнняў Цэнтральнага Камітэта.

### У РУМЫНІЮ

Па запрашэнню Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Румыніі і Рады Міністраў Сацыялістычнай Рэспублікі Румыніі ў лістападзе ў Сацыялістычную Рэспубліку Румыніі выедзе з афіцыйным візітам дружбы партыйна-ўрадавая дэлегацыя Польскай Народнай Рэспублікі на чале з I сакратаром партыі — Уладзіславам Гамулкам і старшынёй Рады Міністраў ПНР — Юзэфам Цыранкевічам.

### ПАПЕРА

У Кастшыні аддадзены да ўжытку новы, найбольшы ў краіне завод паперы, які будзе прадукаваць паперу для друкавання, для пісання і для пакавання.

### 807095

807095 — гэта нумар, праз які з Варшавы можна атрымаць аўтаматычнае тэлефоннае спалучэнне з Масквою. У недалёкай будучыні прадбачваецца наладжанне аўтаматычных спалучэнняў Варшавы з Будапештам і Бухарэстам.

### КОКС

Польшча з'яўляецца адным з найбольшых у свеце экспарцёраў коксу, які неабходны ў металургіі. Прадаем іншым краінам каля 2 мільёнаў тон коксу ў год, а ў бліжэйшым часе экспарт гэты яшчэ пабольшыцца.

### БУЛЬБА

Прадпрыемства ў Слупску пачало прадукцыю «маланкавай бульбы» — гэта значыць пюрэ, якое перад смажаннем трэба варыць усяго 2 мінуты. Такім чынам дасягаецца адначасова і ашчаднасць часу пры варэнні і ашчаднасць самай бульбы.

### ЛІЦЭЙ

У Быдгашчы адкрыты першы ў Польшчы агульнаадукацыйны ліцэй для сляпых.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### УРАЧЫСТЫ КАНЦЭРТ

З нагоды 53-яй гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі адбыўся ў Беластоку ў тэатры Вянгеркі ўрачысты канцэрт, на якім прысутнічалі найвышэйшыя ўлады ваяводства. Са словам аб Кастрычніку выступіў Юзэф Трусевіч — I сакратар гарадскога камітэта партыі ў Беластоку. Прыпомніў ён, што ў радах салдат Кастрычніка на ўсіх яго франтах змагаліся таксама нашы землякі — людзі Беласточчыны.

### НОВЫЯ ПРАМЫСЛОВЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ

Напярэдадні кастрычніцкага свята 1970 года ў Бельску была адкрыта новая фабрыка камбіната «Понар-Бяль» у Беластоку. Працаваць тут будзе 260 асоб, а прадукцыя ў будучым годзе дасягне 70 мільёнаў зл. Урачыстасць адкрыцця правёў I сакратар КВ партыі ў Беластоку А. Лашэвіч і міністр машыннай прамысловасці Я. Грынкевіч.

Падобная ўрачыстасць адбылася таксама ў Гайнаўцы, дзе найвышэйшыя ўлады ваяводства і павета адкрылі фабрыку мэблі — найбольшую ў краіне. Гайнаўская фабрыка будзе прадукаваць таксама на заграічныя рынкі.

### ПРА ВЫШЭЙШЫЯ БЕЛАСТОЦКІЯ ШКОЛЫ

Пра вышэйшыя школы горада Беластока была мова ў апошнім тыдні двойчы: прэзідыум ВРН разважаў аб гэтых справах на сваім пасяджэнні, другі раз — з выпадку ўручэння дыпломаў 296 новым абсальвентам Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. Як сцвердзіў рэктар АМБ Стэфан Сошка, значная большасць лекараў з нашай Медыцынскай акадэміі застаецца на Беласточчыне.

### НОВЫ ГОД НАВУЧАННЯ ЗМВ

Беластоцкая арганізацыя ЗМВ пачала свой год асветна-палітычнага навучання. Тэмы — гэта вёска і яе будучыня, палітычныя погляды моладзі і яе маральная пастава, рабоча-сялянскі саюз і тэмы эканамічнай палітыкі нашай партыі і дзяржавы.

### ПРА СЕЛЬСКУЮ ГАСПАДАРКУ

Сельская гаспадарка для Беласточчыны — тэма адна з важнейшых. Аб ёй гаварылася на пасяджэнні камітэта па справах сельскай гаспадаркі ВК партыі ў Беластоку. Разглядалася сельскагаспадарчая асвета і прагрэс у вёсцы ў гадах 1971—75. Намаганні трэба канцэнтраваць на павышэнні сельскагаспадарчай асветы.

### У ПАРТЫЮ — НАЙЛЕПШЫЯ

Працягваецца справаздачна-выбарчая кампанія ў пярвічных партыйных арганізацыях ПАРП. Увага на сходах канцэнтруецца на ацэнцы дзейнасці арганізацыі за 2 апошнія гады. У партыю прыйшлі новыя людзі, у большасці маладыя. Сярод кандыдатаў кожны трэці — жанчына. Узрасла сетка партыйных арганізацый. Партыя шырока ахапіла вёску.

(вл)




**NIEDZIELA, 15.XI.**

7.50 Program dnia. 7.55 TV Kurs Rolniczy: „Gospodarstwo przykładowe w chowie bydła". 8.30 „Przypominamy, radzimy". 8.40 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych — „Wielka podróż" cz. II. 9.30 „Ponad niebo" — nowela film. radz. 10.00 Mistrzostwo I Ligi — mecz piłkarski ROW — Górnik. W przerwie: PKF. 11.50 Gra Orkiestra Ireneusza Wilkarka. 12.20 Dziennik. 12.35 VI Festiwal Starych Filmów — „W starym kinie". 13.45 „Nauka — rolnictwu". 14.15 „W jeleśnieńskiej karczmie" — Zespół Pieśni i Tańca „Jodły". 14.50 Dla dzieci: M. Kownacka i J. Kurczewski — „O Kasi co gąski zgubiła" — widowisko Państw. Teatru Lalki i Aktora „Marcinek" w Poznaniu. 15.50 „Piórkiem i węglem". 16.15 „Folklor żywy" — rep. film. „Muzeum rodzinne". 16.45 „Tele-Uniwersjada" — teleturniej. 17.45 „Akcja B-2" film dok. („Polska walcząca"). 18.05 „Od melodii do melodii" (Berlin). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Dawnych kulis czar" — anegdoty o teatrze dziewiętnastowiecznym. 21.00 „Inspektor Morgan prowadzi śledztwo" — film fab. ang. 22.30 Magazyn sportowy.

**PONIEDZIAŁEK, 16.XI.**

15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.50 „Kino Filmów Animowanych" (filmy radzieckie). 18.25 „Eureka". 19.00 „Pasterz z wysokich gór" — film dok. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: E. Bryll — „Studium". 21.10 „Wizyta w Recoaro" — film rozr. 22.10 Dziennik.

**WTOREK, 17.XI.**

9.35 „Rzeka posępna" — film fab. radz. cz. II. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — K. Trenew „Lubow Jarowaja". 11.30 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Na co chorują młode zwierzęta gospodarskie". 13.15 Przerwa. 15.20 i 22.25 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.25 „W sojuszu z nauką". 19.00 „Dobrudża" — film rum. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Rzeka posępna" — film fab. radz. cz. II. 21.25 „Polska zza siódmej miedzy" — rep. 21.55 „Chociaż mnie już nie kochasz — ja cię kocham" — film franc. 22.20 Dziennik.

**ŚRODA, 18.XI.**

9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Pierwsze lata II Rzeczypospolitej". 9.30 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Jeszcze Polska nie umarła..." 10.25 Przerwa. 11.00 „Decyzje" — film TV ang. („Saga rodu Forsytów"). 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Środek ciężkości i równowaga ciał". 12.25 Przerwa. 12.45 „Wybieramy zawód" — „Usługi dla potrzeb ludności". 13.05 Przerwa. 15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Rzecz gustu" („Telewizja i Ty"). 17.15 Magazyn ITP. 17.30 „Książki i ludzie". 18.00 „Z piosenką przez Moskwę" — film rozr. 18.20 „Perspektywy techniki" — rep. 19.00 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Decyzje" — film TV ang. („Saga rodu Forsytów"). 20.55 „Światowid". 21.25 PKF. 21.35 „Spotkanie z Galiną Ułanową". 22.15 Dziennik.

**CZWARTEK, 19.XI.**

8.15 Matematyka w szkole: „Izometrie w przestrzeni trójwymiarowej" cz. I. 8.45 Przerwa. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Aleksander Wielki". 9.30 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — W. Katajew „Samotny biały żagiel". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. I—IV lic.) Język polski „Satyra i żart w poezji". 11.25 Przerwa. 12.45 i 13.30 Mechanizacja Rolnictwa: „Układ hydrauliczny w ciągnikach rolniczych" cz. I i II. 14.00 Przerwa. 15.20 i 22.25 Politechnika TV I roku. Chemia. „Przemiana chemiczna". 15.55 i 23.00 Politechnika TV I roku. Chemia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.40 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.55 „Ryby i przetwórstwo". 18.25 „Show na parę" („Niby Show"). 18.55 „Przypominamy, radzimy". 19.00 TV Kurier Białostocki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Śmierć kanclerza Dollfussa" — film fab. NRF. 21.30 „Wśród pamiętników" — felieton lit. prof. dr J. Z. Jakubowskiego. 21.45 „Przegląd muzyczny". 22.15 Dziennik.

**PIĄTEK, 20.XI.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Drobne naprawy w domu". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Z ankietą w fabryce". 11.25 „Dobre obyczaje" — film TV franc. („Szczęście małżeńskie"). 11.50 „Śmierć kanclerza Dollfussa" — film fab. NRF. 13.15 Przerwa. 15.20 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka". 17.35 „Nie tylko dla pań". 18.00 Wszechnica TV: „Nasi uczeni". 18.30 „Kraj". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Dobre obyczaje" — film TV franc. („Szczęście małżeńskie"). 20.45 Koncert Galowy UNESCO — transmisja z Lozanny. W przerwie ok. 22.00 Dziennik.

**SOBOTA, 21.XI.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Przewód pokarmowy". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Francja". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Zaufanie i kontrola". 12.25 „Świadek oskarżenia" — film fab. ameryk. 14.15 Przerwa. 15.20 TV Kurs Rolniczy: „Wychów i opas cieląt". 15.55 Program tygodnia. 16.15 „Oferty". 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: J. Conrad — Korzeniowski „Smuga cienia". 17.20 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 17.30 „Poligon". 18.00 „Spotkania z przyrodą". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Muzyka lekka, łatwa i przyjemna". 21.20 Dziennik. 21.40 Kino Interesujących Filmów: „Świadek oskarżenia" — film fab. ameryk.




**PIĄTEK, 13 LISTOPADA**

15.10 Dla uczniów. 15.30 Przed IV zimową spartakiadą związków zawodowych BSRR. 16.10 Przed XXIV zjazdem KPZR. 16.40 Koncert chóralny. 17.00 Czas. 17.30 Hokej. „Dynamo" (Moskwa) — „Spartak" (Moskwa). 19.45 Kurhan Chwały. 20.15 Film fab.

**SOBOTA, 14 LISTOPADA**

8.45 Dla przedszkolaków. 9.15 Szkatułka Muzyczna. 9.30 Przed XXIV zjazdem KPZR. 10.00 Film fab. dla dzieci. 11.20 Kontrolerzy. 11.50 Film animowany dla dzieci. 12.00 „Paulinka" jedzie do sowchozu. 12.30 Koncert. 13.00 Uniwersytet ludowy. 14.30 Przegląd międzynarodowy. 14.50 Kraj ojczysty. 15.00 Republikańska TV szkoła mechanizacji wsi. 15.30 Spektakl TV. 16.05 Kronika półwiecza. Rok 1959. 16.50 W świecie zwierząt. 17.50 W eterze „Młodość". 18.45 Czas. 19.20 Koncert estradowy. 19.55 Film fab. 21.00 Wieczór F. Lehara.

**NIEDZIELA, 15 LISTOPADA**

8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Dla uczniów. 9.30 Dla dzieci. 10.00 Rembrandt. 10.30 U źródeł czynów. 11.00 Arcydzieło. 11.55 Białe i czarne. 12.25 Dla uczniów. 13.30 Dla żołnierzy. 13.50 Spotkania muzyczne. 14.20 Wieś przed XXIV zjazdem partii. 15.05 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.05 Poszukiwania. 16.45 Zaproszenie na koncert. 18.00 Czas. 18.30 Film fab. 20.00 Władcy bez masek. 20.30 Koncert.

**Наш Каляндар**

## МІХАСЬ ВАСІЛЁК



Споўнілася 65 год з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Міхася Васілька. Нарадзіўся ён 14.XI.1905 г. у вёсцы Баброўка на Гродзеншчыне.

«Шчыры голас Васілька, — успамінае Піліп Пестрак, — гучаў у заходнебеларускай паэзіі, пачынаючы ад 1925 года... Васілька ведаў, чытаў і любіў народ. Яго вершы дэкламаваліся са сцэны вясковых гурткоў самадзейнасці. Яны клікалі народ да барацьбы за вызваленне.

Міхась Васілёк — першы паэт былой Заходняй Беларусі, які непасрэдна выказаў думкі і пачуцці прыгнечанага народа... Талент Міхася Васілька вырас на ўздыме рэвалюцыйнай хвалі перыяду 1925—1929 гадоў...»

У верасні 1939 года Міхась Васілёк у шынялі салдата польскай арміі трапіў у фашысцкі канцлагер. Уцёкшы з палону паэт змагаўся з фашыстамі ў партызанскіх атрадах на Гродзеншчыне.

Памёр М. Васілёк 5 верасня 1960 г.

Паэт добра вядомы на Беласточчыне. Яго вершы, друкаваныя ў сатырычна-гумарыстычным часопісе «Маланка», часта ўспамінаюць былыя грамадаўцы. Сёння прыгадаем адзін з іх. Напісаны ён у 1926 годзе, а хочацца яго прапанаваць нашым гурткам мастацкай самадзейнасці, якія наракаюць на недахоп сучаснага рэпертуару.

### ◆ ГАРЭЛКА ◆

*Эх, гарэліца мая,*
*Што ты вычаўпляеш,*
*Ты над намі, мужыкамі,*
*Літасці не маеш.*

*У Зыдора серадой*
*Талаку спраўлялі.*
*Напіліся, ой-ёй-ёй!*
*Моцна загулялі.*

*Янка лысы праз парог*
*Ракам перабраўся,*
*Праз яго-та, далі-бог,*
*Ўвесь садом падняўся.*

*Цімах кажа, што ён так*
*Дапаўзе да хаты;*
*А Яўхім пярэчыць; «Не,*
*Брэшаш, трыбухач ты!»*

*Той за слова «трыбухач»*
*Бац Яўхіму ў зубы,*
*Паднялася «талака»,*
*Чуб схапіўся з чубам.*

*Эх, гарэліца мая,*
*Што ты вычаўпляеш,*
*Ты над намі, мужыкамі,*
*Літасці не маеш.*

*У Сымона дзе-ні-дзе —*
*Я скажу вам шчыра —*
*Засталося ў барадзе*
*Валасін з чатыры.*

*А Зыдору ў бойцы той*
*(Тут, брат, не да смеху),*
*Бач, па твары нібы хто*
*З бараной праехаў.*

*Казюку нечы кулак*
*Ёмка ўгрэў па носе,*
*Заспяваў мой небарак:*
*«Досі, хлопцы, досі»...*

*Эх, гарэліца мая,*
*Што ты вычаўпляеш,*
*Ты над намі, мужыкамі,*
*Літасці не маеш.*

У Сухінічах быў я даўно — хіба з пяць гадоў таму назад. Гутарыў тады з моладдзю Сухінічаў аб іх планах пабудовы ў вёсцы святліцы. Маладыя жыхары Сухініч паказалі мне месца, дзе мае стаць святліца; ляжала там тады купа камення, прывезенага сялянамі грамадскім чынам на фундамент пад святліцу.

Паўторна наведаў я Сухінічы некалькі тыдняў таму назад. На пляцу, дзе мела стаяць святліца, не было ўжо прывезенага сюды калісьці камення і не было таксама, рэч зразумелая, святліцы. Пра святліцу ніхто не ўспамінаў, пакуль не пачаў я сам пра яе распытваць.

У Сухінічах ёсць затое клуб «Руху». Цесната тут страшэнная. Гэта проста маленькае памяшканне, нанятае ў мясцовага гаспадара, у якім размясціўся кіёск «Руху», тэлевізар, ды пасярэдзіне некалькі столікаў і крэслаў. Народ прыходзіць сюды перш за ўсё купіць папяросы, ды паглядзець тэлевізар. Ёсць у клубе нават і кава, але ніхто яе не п'е — куды тут у такой цеснаце! Увесь вечар народ стаіць стаўбом і ўглядаецца ў тэлевізар, бо няма дзе нават сесці.

У такі вечар быў я ў сухініцкім клубе. Кіраўнічка клуба выключыла тэлевізар, папрасіла, каб была цішыня і дала мне слова. Расказваю аб нашых «ніваўскіх», ды беластоцкіх справах, прашу людзей да дыскусіі.

Людзі расказваюць перш за ўсё аб сваім аматарскім гуртку. Гуртком, сапраўды, можна ў Сухінічах пахваліцца. Існуе ён тут ужо звыш дзесяці гадоў.

**Сустрэчы з «Нівай»**

## РАЗМОВЫ Ў ЦЕСНЫМ КЛУБЕ

Моладзь змяняецца, адыходзяць адны, прыходзяць другія, а гурток дзейнічае надалей. Здабывае розныя ўзнагароды на конкурсах і аглядах, выступае ў сваёй вёсцы, у ваколіцы і нават у суседніх паветах. Бяда толькі вось у чым: у Сухінічах няма дзе гуртку выступаць, няма дзе нават праводзіць рэпетыцыі. Праўда, ёсць яшчэ школьная зала, але не заўсёды можна ёю карыстацца — усё залежыць тут ад волі настаўнікаў.

— А святліца? — пытаю, — чаму не пабудавалася ў вёсцы святліца?

Прысутныя не вельмі ўжо і помняць, як гэта кончылася. Справа гэтай пабудовы цягнулася каля 10 гадоў. У канцы высветлілася, што будаваць святліцы нельга, бо пляц пад будову не мае адпаведных размераў.

Справа святліцы аднак у Сухінічах — не найважнейшая. Важнейшай ад яе з'яўляецца справа пабудовы школы. У Сухінічах школа надта старая і малая, як на патрэбы тутэйшай дзетвары. Сяляне злуюцца:

— Чаму, скажыце, пабудавана школа ў Сакалдзе, у Лазнях і ў іншых вёсках, дзе мала было дзяцей, а цяпер іх зусім няма і трэба закрываць гэтыя школы? А ў нас столькі дзяцей з нашай і навакольных вёсак, што трэба наймаць 4 школьныя залы ў гаспадароў. Чаму гэта так?

— Мабыць, — адказваю я, — яны больш ад вас стараліся, каб школа была пабудавана.

— Стараліся? — злуюцца прысутныя. — А што тут старацца! Ці ўлады самі не ведаюць, што нам школа патрэбная, што ў нас многа дзяцей і няма дзе вучыцца? Ці яны гэтага не бачаць?

Потым размова перайшла на тэму старадаўняй студні, размешчанай за вёскаю, пабудаванай у старыя часы, яшчэ тады, калі ў Сухінічах была ўсяго адна студня — менавіта гэтая за вёскаю. Студня абшырная, вадаёмкая і, раскапаўшы яе, можна зрабіць тут супрацьпажарніцкі вадаём. Прысутныя злуюцца, што ніхто дагэтуль не зрабіў гэтага.

Сяляне ў Сухінічах лічаць, што ўлады павінны ведаць аб усім, што трэба, і самі справядліва дзяліць паміж паасобнымі вёскамі сродкі. Згода, было б вельмі добра, каб было аж так добра. Але пакуль што — улады складаюцца са звычайных людзей, якія не ўсё могуць, якія часам прапускаюць розныя недагляды і памыляюцца. І таму хацеў бы на заканчэнне пажадаць маім субяседнікам з Сухініч больш энергіі ў абароне сваіх спраў і больш уласнай ініцыятывы ў справах сваёй вёскі.

*У. Паўлючук*



ЗАПІСКІ З ПАДАРОЖЖА




Цёплы асенні дзень на балгарскім узбярэжжы Чорнага мора. Натоўп голага народу, як штодзень, выліўся на пляж. Кіламетрамі цягнецца гэты мурашнік чалавечых цел, купаючыхся ў сонцы, пяску і вадзе. Людзі розных краін, нацый і моваў.

Іду краем вады ўздоўж берага. Нейкія дзівакі распалілі на беразе вогнішча і смажаць у ім малюскі, якіх мора мноства выкідае тут на бераг. Падыходжу. Частуюць мяне гэтымі своеабразнымі марскімі «жабамі». Каштую. Чаго ж — зусім нядрэнныя. Нашыя жабы, мабыць, не горшыя, толькі што нікому ў нас нават думка не прыходзіць, што можна іх смажыць і есці.

На пляж выбег малады вожык. Закруціўся на пяску і пачаў ізноў бегчы ў каменне. Падбег я, ды паспрабаваў злавіць гэтага калючага звера ў рукі.

— Кіньце яго, — сказаў нейкі балгарын, — вожыкаў тут нельга мучыць. Вожыкі — гэта першыя сторажы ўзбярэжжа. Ад іх усё пачалося.

І сапраўды, пачалося тут усё ад вожыкаў. Гадоў дваццаць таму назад была тут дзікая, непраходная пушча, у якой поўна было змеяў. Балгары рашылі загаспадарыць узбярэжжа — пабудаваць дарогі, гасцініцы, курорты, абсталяваць камбінаты, магазіны розных паслуг, гульні. Словам — стварыць турыстычны цэнтр. Трэба было пачаць ад знішчэння ядавітых змей, якія пагражаюць чалавечаму жыццю. Як вядома, адзіным зверам, які не баіцца змінага яду, з'яўляецца вожык. Адкуль узяць аднак столькі вожыкаў? Балгары звярнуліся ў гэтай справе да Албаніі. Албанцы выслалі ў Балгарыю цэлыя транспарты гэтых калючых звяроў. Жывуць яны сёння ў зарасніках балгарскага ўзбярэжжа, выходзячы час ад часу на пляж.

Змеі былі знішчаны, а затым пачалася з вялікім размахам і тонкім густам забудова ўзбярэжжа. Сёння бераг Чорнага мора ў ваколіцах горада Варны — гэта адзін вялікі курорт. Усюды люксусныя гасцініцы, рэстараны, магазіны, поўныя сувеніраў. Мяне аднак цікавіць іншае.

Вось мясцовасць Залатыя Пяскі — адзін з галоўных цэнтраў балгарскай турыстыкі. Хопіць выйсці за бліскучыя шклом і сталлю супер-сучасныя забудаванні, туды дзе дрэмле стары прыморскі лес, каб знайсціся ў дзіўнай казачнай краіне. У прыморскім лесе, сярод старых дрэў, горных скал і струменяў вады балгары размясцілі цэлы шэраг рэстаранаў, хітра стылізаваных паводле розных народных стыляў. Ёсць тут «Індзейская вёска» — копія сапраўднай індзейскай вёскі, зробленая спецыяльна для турыстаў, пры чым столікі размешчаны тут нават высока ў галінах дрэў, а паслуга рэстарана падае туды госцям чай ды марожанае. Ёсць «Каракачанская вёска» — такая ж копія саламяных шалашоў пастушага племені каракачэнцаў, у якіх турысты спажываюць ласункі каракачанскай кухні. Ёсць «Цыганскі табар», дзе гасцей прымаюць на цыганскіх вазах. Могуць яны тут усю ноч, папіваючы ракію, аглядаць прыгожую праграму цыганскіх танцаў і песень. Ёсць шэраг іншых рэстаранаў, стылізаваных пад фальклор розных народаў і прафесіянальных груп, пад старыя балгарскія карчмы, старыя вадзяныя млыны, у якіх страшыць, карсарскія караблі і г.д.

Вяршыняй дасціпнасці балгараў у прыцягванні турыстаў з'яўляецца аднак рэстаран «Кашарата». Кашарата — па-балгарску азначае ні менш ні больш, толькі «аўчарня». І сапраўды, пасярэдзіне рэстарана агарожа, а ў ёй чарада звычайных, галасна бляючых авечак-чабаноў. Побач брэша сабака, кукарэкае недзе певень, на пахіленым плоце паразвешаны гліняныя гладушкі, сцены рэстарана ўпрыгожаны вянкамі звычайнай цыбулі. Ля авечак «пастух», прыбраны па-народнаму, іграе сумна на жалейцы, натоўп турыстаў фатаграфуе яго з усіх бакоў. Побач маленькія загарадзі, якраз такія, якімі ў хлявах адгароджваюць свіней ад авечак, у загарадзях, пры століках людзі п'юць чай і гарэлку, размаўляючы на нямецкай, англійскай і іншых еўрапейскіх мовах. Смешна тут і прымітыўна, а людзей прыцягвае гэтая штучная прымітыўнасць — тых людзей, якія знудзіліся ўжо гарадской камфартабельнасцю.

На пляцу «Кашараты» вялікая печ, такая, у якой у нас на вёсцы пякуць хлеб. У печы гарыць агонь і варацца ў гаршчках стравы. Як вядома, і ў нас калісьці варыліся ў такіх печах стравы, але звычай гэты паступова закінулі, бо страва надта смярдзела дымам. Госці «Кашараты» плацяць параўнальна вялікія грошы, каб паспрабаваць гэтай пахучай дымам стравы з балгарскай народнай печы. Кожны з гасцей можа падысці да чарады авечак, выбраць сабе аднаго з чабаноў і заказаць, каб зварылі яго ў гэтай вялікай хлебнай печы. Паслуга рэстарана мігам рэжа чабана, здзірае з яго скуру і варыць. Госці — рэч зразумелая — плацяць за авечку, варэнне і ўсе іншыя прыемнасці.

Наведваючы «Кашарату», увайшоў я аднойчы ў праход, у які ўваходзіць гасцям забаронена. І што ўбачыў? За заслонай штучна прымітыўных сцен працуе супер-сучасная кухня, дзе ўсё варыцца, жарыцца і копціцца на рознага роду сучасных кухонных прыборах. Але гэтага кухоннага камфорту гасцям не паказваюць. Паказваюць штучную прымітыўнасць і народнасць, у якой хочуць яны пабываць.

Мімволі падумаў я пра некаторыя нашыя прымітыўныя, устарэлыя вёсачкі, якія пара было б замяніць на рэстараны для прагнучых прымітывізму турыстаў — дзеля таго, каб іх жыхары маглі перайсці на больш канфартабельны, сучасны спосаб жыцця.

УЛ. ПАЎЛЮЧУК

 

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

Восенню 1943 года ў ходзе вайны супраць гітлераўскай Германіі намеціўся яўны паварот у карысць саюзнікаў. Таму ўжо не толькі ваенныя, але і палітычныя меркаванні дыктавалі настойлівую неабходнасць сустрэчы трох лідэраў антыгітлераўскай кааліцыі. Трэба было абмеркаваць і ўзгодніць далейшыя сумесныя дзеянні для паскарэння перамогі над агульным ворагам, абмяняцца думкамі наконт пасляваеннага ўпарадкавання.

Перапіска паміж Сталіным, Рузвельтам і Чэрчылем аб маючай адбыцца іх сустрэчы вялася на працягу доўгага часу. Увогуле ўсе былі за такую сустрэчу. Аднак сур'ёзныя цяжкасці мела пытанне аб тым, дзе яна павінна адбыцца. Сталін лічыў за лепшае правесці канферэнцыю бліжэй да савецкай тэрыторыі. Ён тлумачыў, што актыўныя ваенныя аперацыі на савецка-германскім фронце не дазваляюць яму як Вярхоўнаму Галоўнакамандуючаму надоўга адлучацца з Масквы. Гэта быў, вядома, важкі аргумент.

Рузвельт, у сваю чаргу, спасылаўся на амерыканскую канстытуцыю, якая не дазваляла яму як прэзідэнту на доўгі час адлучацца і з Вашынгтона. Хутчэй за ўсё тут, аднак, адыгрывалі ролю меркаванні прэстыжу. Затое Чэрчыль, які да гэтага пабываў ужо ў Маскве, выказаў гатоўнасць сустрэцца ў любым месцы.

Урэшце месцам сустрэчы быў выбран Тэгеран. Бадай цяжка было знайсці месца, якое больш падыходзіла б для перагавораў трох лідэраў ваеннага часу, чым рэзідэнцыя савецкага пасольства ў іранскай сталіцы. Тут нішто не магло перашкодзіць рабоце, сюды не даносіўся шум усходняга горада. Вялікую тэрыторыю акружае высокая каменная сцяна. Сярод зеляніны парку раскідана некалькі будынкаў са светлай цэглы, у якіх размясцілася савецкая дэлегацыя. Галоўны асабняк, дзе звычайна знаходзілася канцылярыя пасольства, быў прыстасаваны пад рэзідэнцыю прэзідэнта ЗША Рузвельта.

Прапанова аб тым, каб амерыканскі прэзідэнт спыніўся на час канферэнцыі ў савецкім пасольстве, загадзя абмяркоўвалася ўдзельнікамі тэгеранскай сустрэчы. У канчатковым выніку пытанне вырашылі, зыходзячы з меркаванняў бяспекі.

(Працяг на стар. 6)

франтавая армія, а таксама радасныя хвіліны вызвалення і ўключэння партызан у рэгулярныя вайсковыя адзінкі.

Польскі партызанскі атрад імя Т. Касцюшкі пераправіўся на самалётах за Буг. Неўзабаве вырас ён у брыгаду і граміў ворага на айчыннай зямлі.

У заключэнні сваёй кнігі Шубітыдзе піша: «Заклік «За вашу і нашу свабоду!» поўнасцю ажыццявіўся, свабоду мы здабылі. Сумесна пралітая кроў на савецкай зямлі не прападала дарма. Вырасла магутная дэмакратычная Польшча. Наша дружба яшчэ больш умацавалася і акрэпла».

Кніга Івана Шубітыдзе «Палескія баі» — гэта сапраўдная ваенная хроніка, гісторыя братняга супрацоўніцтва савецкіх партызан, гісторыя ахвярнай супольнай барацьбы з гітлераўскімі захопнікамі. Кніга напісана з вялікай сімпатыяй да палякаў, яна быццам бы прысвечана польскаму чытачу. Ля прозвішчаў многіх гераічных партызан аўтар падкрэслівае іх польскае паходжанне.

Вельмі добра, што «Палескія баі» ў перакладзе на польскую мову рыхтуюцца да друку выдавецтвам «Кніга і Веды» ў Варшаве.

ВІКТАР ШВЕД

---

Іван Шубітыдзе «Палескія баі». Літаратурны запіс Рыгора Няхая. Выдавецтва «Беларусь», Мінск 1969.

## 18.X.70 г.

Мілейчыцкі аддзел БГКТ арганізаваў калектыўную паездку членаў прэзідыума і членаў ГП БГКТ у вёскі з мэтай арганізавання новых гурткоў БГКТ у раёне Грабаркі — станцыі Сямяцічы, у раёне, які дагэтуль не быў ахоплены дзейнасцю таварыства. І так, член ГП Янка Вішанка паехаў у вёску Навасёлкі, член ГП Сяргей Крэйза — у вёску Сычы, член ГП Анатоль Мартыновіч — у вёску Грабарку, член прэзідыума праўлення аддзела Міхась Вішанка — у вёску Шаршэні, а старшыня рэвізійнай камісіі праўлення аддзела Язэп Мартынюк — у вёску Баратынец-Рускі.

У выніку праведзеных сходаў і гутарак з жыхарамі гэтых вёсак арганізаваны два гурткі БГКТ у вёсках Навасёлкі і Сычы, а ў вёсках Грабарка, Шаршэні і Баратынец-Рускі падрыхтаваны сходы сялян на 25.X.70 г.

У вёсцы Навасёлкі арганізаваны гурток БГКТ, у які ўступіла 11 членаў (пераважна моладзь). У праўленне гуртка ўвайшлі: старшыня — Аляксандр Маркевіч, сакратар — Манцюк Люся, касір — Манцюк Мікалай. Моладзь з гэтага гуртка мае вельмі амбітныя мэты. Хочуць арганізаваць клуб маладога гаспадара. Памяшканне ёсць, толькі трэба дабіцца,

# Мілейчыцкі аддзел пашырае сваю дзейнасць

каб мілейчыцкі ГС абсталяваў гэты клуб неабходнай мэбляю. Адначасова арганізаваўся драмгурток. Яны хочуць паставіць аднак не толькі п'есу, але і стварыць харавую групу. Гэтым імкненням маладых людзей, якія хочуць узяць у свае рукі справу культурнага жыцця вёскі, павінны дапамагчы дзеячы і прадстаўнікі мясцовых улад, а перш за ўсё праўленне гміннай спулдзельні ў Мілейчыцах, якое дагэтуль на тэрыторыі сваёй дзейнасці вядзе толькі адзін клуб маладога гаспадара ў вёсцы Гарнова.

У вёсцы Сычы на арганізацыйны сход гуртка прыйшла моладзь і старэйшыя жыхары вёскі. Дэкларацыі падпісала 12 членаў. Яны выбралі праўленне гуртка: старшынёй — Янку Барысюка, сакратаром — Лявоня Карпюка, касірам — Вольгу Карнілюк.

Таксама як і ў Навасёлках, моладзь з Сычоў мае амбітныя планы дзейнасці — узяць культурнае жыццё вёскі ў свае рукі. У Сычах моладзь мае лепшыя ўмовы да культурнай дзейнасці, чым у Навасёлках, бо тут ёсць клуб маладога гаспадара, арганізаваны ГС-ам у Баратынцы-Рускім. Гэты клуб арганізаваўся чатыры гады таму назад. Праца яго, а перш за ўсё апякункі клуба Вольгі Карнілюк, разгортваецца ўсебакова. Гэта сапраўды культурны цэнтр жыцця вёскі. Тут старшыня і моладзь праводзяць вечарыны, гутаркі, тут прачытаць можна цікавыя часопісы, паглядзець тэлевізар, выпіць чорную каву. Клуб гэты свеціць чыстатой і мае эстэтычны выгляд, ёсць тут прыгожая мэбля, густоўныя столікі і мяккія крэслы, тэлевізар з вялікім экранам, прыгожа выглядае буфет. Гэта добры прыклад для іншых праўленняў ГС.

СЯРГЕЙ КРЭЙЗА,
*член ГП БГКТ*



*Момант падпісання дэкларацыі аб уступленні ў члены БГКТ у Сычах. Стаіць старшыня гуртка Янка Барысюк, першая справа — апякунка клуба Вольга Карнілюк.*

*фота аўтара*

Чалавек — свет — палітыка

## ТАКСАМА ШКОЛА

Пачатковая школа №3 у Бельску працуе з грамадска-палітычнай кніжкай. Формы гэтай працы там даволі багатыя, выдаліся яны нам цікавымі і таму падаем іх. Можа, за прыкладам вучняў гэтай школы зацікавяцца кніжкай «Чалавек — свет — палітыка» іншыя школы.

Школа ўвяла пастаянныя выстаўкі кніжкі, якія знаёмяць вучняў з навінкамі ў гэтай галіне. На ўроках грамадзянскага выхавання ў V—VIII класах выхаваўцы расказваюць пра грамадска-палітычную кніжку і абмяркоўваюць прынамсі адну з іх.

У V—VI класах у мінулай дэкадзе кніжкі «Чалавек—свет—палітыка» быў праведзены конкурс сярод вучняў: хто найбольш і найпільней чытае гэтую кніжку.

Школа таксама арганізуе экскурсію ў павятовую бібліятэку на выстаўкі кніжкі «Чалавек—свет—палітыка».

На ўроках польскай і беларускай моваў вучні часта пішуць справаздачу аб адной з прачытаных грамадска-пілітычных кніжак. (вл)

Адрэж па лініі, назначанай пунктырам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізвай старонкі на дроцік або шнурочак.

БІБЛІЯТЭЧКА ''НІВЫ'' ЯНКА МАУР ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ

21.

Ён пяшчотна падкладаў трэскі і сачыў, як языкі полымя лізалі іх. Змрок згушчаўся. А разам з гэтым ярчэла святло ад агню.

І Віктар сядзеў нерухома, не зводзячы вачэй з агню. Яны нават на некаторы час забыліся на ежу.

Нарэшце Віктар ускочыў і крыкнуў:

— Навошта ж я тады сырое мяса еў? Ты выкруціўся ад гэтага, а я дарэмна пакутаваў. Не, брат, так нядобра. Ты таксама павінен пакаштаваць.

Ён ухапіў зайца і пачаў соваць яго Мірону ў рот. Пачалася вясёлая тузаніна.

— Пачакай! — крыкнуў Мірон засопшыся. — Ты ж цяпер маеш перавагу. Табе гэта нічога не пашкодзіла, а між тым ты можаш цяпер хваліцца, што ўсё перажыў на сваім вяку, нават сырое мяса еў.

— А што ты думаеш? Яно і сапраўды так, — згадзіўся Віктар. — Ну, давай гатаваць вячэру.

Але зараз жа выявілася, што справа зусім не такая простая: не было нажа! А без яго ніяк нельга было даступіцца да зайца.

— Вось дык задача! — засмуціўся Віктар. — Хоць ты яго цалкам кідай у агонь.

Ён круціў зайца і так і гэтак, пераламаў яму ногі, але больш нічога, вядома, зрабіць не мог.

— Выходзіць, што зноў трэба зубы ў ход пускаць, — сказаў ён. — Але на гэты раз прыйдзецца ўжо табе.

— Пачакай, — адмахнуўся Мірон, — трэба што-небудзь прыдумаць. Можа, які востры камень знойдзецца? Я пашукаю.

Але было цёмна, і можна было шукаць толькі каля сябе.

— Цяпер і я табе магу лекцыю прачытаць, — важна сказаў Віктар. — Вострага каменя тут не знойдзеш, бо ўсе каменні нанесены сюды ледавікамі і талай вадой з далёкай поўначы. Па дарозе яны або перацерліся ў пясок, або адшліфаваліся ў круглыя галачкі. Нават больш-менш вялікіх каменняў тут не знойдзеш: яны засталіся далей на поўнач, напрыклад, у Полаччыне.

— Ведаю я гэта, — адказаў Мірон, але ўсё ж поўзаў на каленях і капаўся ў пяску. — Не можа быць, каб аніводнага, нават невялікага каменьчыка не было. А калі ён будзе круглы, дык яго можна разбіць на кавалкі.

Віктар аж засаромеўся: яму ў гэты момант зусім не прыйшла на думку такая простая рэч, што камень можна пабіць. Віктар тады і сам узяўся шукаць.

Доўга прыйшлося ім папоўзаць, пакуль знайшлі невялікі гладкі, крыху сплюшчаны камень. А калі захацелі пакрышыць, — дык не было чым і аб што!

— Вось табе і на! — сказаў збянтэжаны Мірон. — Трэба, значыцца, шукаць другі.

Але знайсці другі камень не было надзеі. Віктар усміхнуўся:

— Не выкруцішся, брат, — грызі зайца!

— А вось паглядзім! — упарта сказаў Мірон, адшпіліў рэмень і ўзяўся за жалезную спражку. — Гэтая штука выратуе. Асабліва, калі яе яшчэ павастрыць аб камень.

— Вось хітры, чорт! — прамовіў Віктар.

23.

дала той навуковай дыскусіі, якая вялася вакол яе. Аднак з дапамогай трэсак, сучкоў, пальцаў абодвух хлопцаў яна выканала сваю задачу: атрымалася некалькі бясформенных кавалкаў мяса, якія Мірон і закапаў у жар.

— А можа, лепш над агнём? — сказаў Віктар. Я чытаў, што гэтак робяць.

— А я чытаў, што ў попел кладуць, — адказаў Мірон. — Другі раз паспрабуем над агнём. Паспеем яшчэ вывучаць розныя спосабы.

Калі мяса пачало скварыцца і сіпець, пакуты хлопцаў яшчэ больш павялічыліся.

— Цягні, досыць ужо! — крычаў Віктар кожную хвіліну. Нарэшце выцягнулі.

Што за смажаніна выйшла, які смак мяса, — невядома, бо з'едзена яна была ў адзін міг. І толькі пасля гэтага пайшлі розныя заўвагі:

— А здаецца, мы яго не датрымалі.

— Шкада, што солі няма. Была б зусім іншая рэч.

— Эх, каб хоць малюсенькую лустачку хлеба!

Затое тыя кавалкі мяса, што засталіся на заўтра, былі дасмажаны добра. Палажылі іх на трэсках пад дрэвам і пачалі рыхтавацца да сну. Настрой хлопцаў быў ужо зусім іншым.

— Закурыць бы цяпер, — сказаў Віктар і пайшоў шукаць сваю махорку. Але ў цемры не знайшоў. Узяў тады галіну з агнём — і ўбачыў, што ўся махорка параскіданая і патаптаная.

— Гэта ты зрабіў?! — крыкнуў ён на Мірона.

— Навошта яна мне здалася? — паціснуў плячыма Мірон.

— Мусіць, і твая праца тут ёсць. Памятаеш, як мы тады дужаліся...

Пачаў быў Віктар збіраць драбінкі, потым раззлаваўся і плюнуў.

— Вось і добра, — заўважыў Мірон. — Калі-небудзь падзякуем, што так здарылася.

Назапасілі нанач галля.

— Каб нам не звесці агню, — трывожыўся Мірон. — Можа па чарзе пільнаваць.

— Ну, ну. Ад добрага вогнішча заўсёды застаецца пад попелам жар да раніцы.

Спаць класціся не спяшаліся. Абодва адчувалі сябе так спакойна і ўтульна, нібы яны былі ў самым звычайным становішчы.

— Толькі два дні мінула, — разважаў Мірон, — а мне здаецца, нібы некалькі тыдняў мы тут жывем. Але што мы будзем есці, калі прыйдзецца тут чакаць тыдзень ці два?

— Звяроў будзем лавіць, рыбу, птушак, — весела адказаў Віктар. — Цяпер, калі ёсць агонь, я ўжо нічога не баюся.

— Яно так, але як будзеш лавіць? — задуменна пытаўся Мірон.

— А як жа розныя дзікуны жывуць? — храбрыўся Віктар.

Праз гадзіну хлопцы смачна спалі, адчуваючы пяшчотную цеплыню ад свайго ў поце здабытага агню.

 

 

22.

Мірон пачаў вастрыць сваю прыладу аб камень, але ён быў зусім гладкі і жалеза коўзалася без жаданых вынікаў. Тады Віктар падбег да балота, зачарпнуў у жменю вады, змяшаў з пяском і прынёс Мірону.

— Вось табе рацыяналізацыя, — сказаў ён.

«Рацыяналізацыя» трошкі дапамагла. Хоць навастрыць спражку, як нож, і нельга было, але канты зняць удалося. Тады выявілася новая бяда: гладкі, закруглены край спражкі так ёмка слізгаў па скуры, што не пакідаў знаку.

— Зноў не тое! — з прыкрасцю вымавіў Віктар.

— Тады зробім, каб было тое, — спакойна адказаў Мірон.

— Якім чынам?

— Пастукаем аб камень, зробім насечкі, каб не слізгала. Так сказаць, па прынцыпу пілы.

— Па прынцыпу пілы-ы! — з жартаўлівай павагай паўтарыў Віктар. — Гэта я разумею.

Спражка пачала драпаць скуру і пакідаць сякі-такі след. Але тут выявіўся новы недахоп: «лязо» было надта кароткім і больш прыходзілася пароць рогам, чым рэзаць ці піліць рабром. А рог акурат быў зусім тупы, прыйшлося цяпер завастрыць яго.

Адным словам, кожны раз выяўлялася, што трэба і можна яшчэ і яшчэ палепшыць прыладу. Нарэшце Віктар сказаў:

— Чаму было нам адразу так не зрабіць? А то цэлую гадзіну ўсё патрошкі выдумваем.

— Відаць, адразу з галавы, без практыкі, не надта выдумаеш, — адказаў Мірон. — Я думаю, мы за гэтую гадзіну прайшлі шлях, які першабытны чалавек праходзіў гады, стагоддзі...

— ...тысячагоддзі! — жартаўліва падказаў Віктар.

— І тысячагоддзі! — сур'ёзна сказаў Мірон. — Першабытны чалавек еў сырога зайца гэтак жа, як і ты. А колькі часу прайшло, пакуль ён здабыў агонь? Першабытны чалавек не меў ніякай прылады, як і мы. А колькі часу прайшло, пакуль ён надумаўся скарыстаць камень? А колькі часу прайшло ад каменя да жалеза?..

— Пачакай, пачакай, — перапыніў Віктар. — Тут ужо ты няправільна разважаеш: жалеза ты не выдумаў, а гатовае ўзяў.

— Ну добра, — згадзіўся Мірон. — Але апрацоўку і прыстасаванне яго першабытны чалавек прыдумаў, напэўна, не за гадзіну. Вось разам і набяруцца не толькі тысячы год, а нават мільёны. А ў нас з табою і дня не прайшло.

— Няма чаго задавацца, — зняважліва адказаў Віктар. — Твае вынаходствы не твая заслуга, а ўсіх папярэдніх пакаленняў, у тым ліку і першабытных людзей. Твайго тут і макавінкі не знойдзецца. А каб не было нікога да нас, то мы з табою таксама выдумлялі б мільёны гадоў.

Гэтыя размовы мелі тую карысць, што на некаторы час адцягнулі думкі хлопцаў ад голаду. Затым прылада была пушчана ў ход. Які гэта быў «ход», лепш ужо не гаварыць... У кожным разе, роля прылады зусім не адпавя-

24.

V

**Таемны звер. — Навальніца. — Змаганне за агонь.**

Ноч выдалася цёплая, ціхая. Але лес, відаць, не спаў. То пісне нейкая птушка, то прарэзліва крыкне сава, то храсне сухая галіна, то пачуецца ледзь значны шолах.

Агонь дагараў. Куча галля ўсё змяншалася, канцы ламачча тлелі навокал. У сярэдзіне было досыць вугалляў і жару, але святло ўсё слабела. Вуголле шарэла ўсё больш і больш, а разам з гэтым з лесу пачала насоўвацца цемра. Вось ужо агеньчык ледзь-ледзь блішчыць.

Тады ў лесе мільгануў цень нейкага невялікага звера. Рухаўся ён так ціха, што яго нельга было б пачуць, нават калі б хлопцы не спалі. Звер круціўся навокал то з аднаго, то з другога боку, усё бліжэй, бліжэй...

Ужо можна пазнаць, што гэта ліс. Але, на шчасце, ад гэтага звера хлопцам ніякай небяспекі не пагражала. Пакруціўся ліс крыху і знік.

Было ўжо за поўнач, але паветра не толькі не халаднела, а, здавалася, нават цяплела. Яно было нейкае густое, парнае. З захаду даносіўся прыдушаны грукат, мільгалі маланкі. Набліжалася навальніца...

Хлопцы спалі сабе і нічога не чулі. Мусіць таму, што грукат быў глухі, безупынны і ўзмацняўся паступова. Ён змешваўся з шолахам дрэў, а да такога шуму вушы хлопцаў ужо прызвычаіліся. Не прачнуліся яны і тады, калі ўпалі першыя кроплі цёплага дажджу.

Толькі зусім блізкі страшэнны ўдар грому прымусіў Мірона ўскочыць на ногі. Ён адразу ж разбудзіў Віктара. Прайшло некалькі хвілін, пакуль хлопцы разабраліся, у чым справа.

— Агонь! Агонь! — крыкнуў Віктар, ачухаўшыся, і кінуўся да вогнішча. Абодва разам пачалі дзьмухаць, падкладаць галлё.

А дождж пайшоў ужо як мае быць. Галлё сіпела, не хацела гарэць. Хлопцы ўткнуліся галовамі ў вуголле, распласталіся на зямлі і дзьмухалі з усёй сілы. А на спіны іх ліўся ўжо дождж, як з лубу.

Высокая хвоя, пад якой яны размясціліся, мела галіны надта высока, а дождж ішоў наўскасяк і без перашкод заліваў іх стаянку.

Вось ужо гром грукоча над самай галавой, маланка зіхаціць безупынна, вецер хістае дрэвы. Побач нават нешта ўжо хруснула. Але небаракі нічога гэтага не чулі і не бачылі. Яны бачылі толькі сваё няшчаснае вогнішча, якое гінула на іх вачах. Тое галлё, якога яны панакідалі, не толькі не загаралася, але, наадварот, здаецца, канчаткова прыдушвала агонь. Спачатку яшчэ ішоў густы дым, а потым і ён пачаў змяншацца. Гэта было вернай адзнакай таго, што агонь паміраե.

— К чорту гэта мокрае ламачча! — крыкнуў Мірон. Але Віктар ужо зняў сваю скураную куртку і працягваў яму яе крысо.

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# Новы беларускі трактар

На мінскім трактарным заводзе на базе машыны МТЗ-50 створаны новы абганяльны трактар з усімі вядучымі коламі МТЗ — 82. Устаноўлены на ім рухавік развівае магутнасць да 80 конскіх сіл. Трактар мае аўтаматычную рэгуліроўку глыбіні ворыва. Пры неабходнасці трактарыст хутка без асаблівых намаганняў можа мяняць памер калей задніх колаў. МТЗ — 82 можа развіваць хуткасць да 35 км у гадзіну. Зараз ён праходзіць дзяржаўныя выпрабаванні.

На здымку: МТЗ—82 на дзяржаўных выпрабаваннях.



І такое бывае

## НАШЭСЦЕ ВУСТРЫЦ

З Ньюпарта (штат Род-Айленд) паступаюць паведамленні аб нашэсці малюскаў. На працягу летніх асенніх месяцаў прыбой выносіў на ўзбярэжжа гэтага гарадка дзесяткі і сотні тысяч ракавін кожныя суткі. Таўшчыня пласта ракавінак на асушаемай прыбойнай паласе дасягае дваццаці сантыметраў.

Толькі ў чэрвені з дапамогай аўтапагрузчыкаў і самазвалаў з набярэжных і пляжаў вывезлі больш чым дзве тысячы тон малюскаў. Яны гніюць на ўзбярэжжы, што, вядома, не прыцягвае турыстаў у гэту курортную мясцовасць, да таго ж прама пагражае санітарнай бяспецы раёна. Улады штата выдзяляюць дванаццаць дадатковых грузавікоў і некалькі дарожных грэйдэраў, каб ачысціць хаця б тры чвэрці мілі пляжаў, дзе бывае найбольш наведвальнікаў.

Выкліканы кансультанты з Вудсхолскага акіянаграфічнага інстытута (штат Масачусетс), дзяржаўнага бюро камерцыйнага рыбалоўства ЗША і акіянаграфічнай лабараторыі універсітэта штата Род-Айленд. Яны прышлі да заключэння, што на вялікай вустрычнай водмелі ў Атлантыцы, паблізу Нью-парта, адбыўся «выбух народнасельніцтва». У выніку мільёны малюскаў пры спробе мігрыраваць у іншыя раёны падхопліваюцца прылівам і выкідваюцца на бераг. Змагацца з гэтым можна пакуль толькі адным спосабам — прыбіраць вустрыц, якіх прыбой выкідвае на бераг. Частку яшчэ жывых малюскаў паспешліва перакідваюць у воды бліжэйшага заліва Нарагансет — магчыма, вустрыцы там прыжывуцца.

## ВІТАМІН І ЯД

Прафесар Калькуцкага універсітэта П. Дэй даказаў, што вялікія дозы вітаміну С могуць прадухіліць смерць ад слупняку. Як вядома, надзейных лекаў ад гэтай хваробы пакуль няма. Доктар Дэй устанавіў таксама, што аскарбінавая кіслата, хутка ўведзеная пад скуру, можа нейтралізаваць дзеянне некаторых моцных ядаў расліннага паходжання.

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ПАШТЭЦІКІ

Трэба адразу падкрэсліць, што паштэцікі — гэта элегантны дадатак не толькі да «чыстага» баршчу, але і да розных «чыстых» супаў, булёнаў. Падаюць іх як гарачыя, так і халодныя, а робяць з рознага цеста. Паколькі месца, адведзенае для нас у газеце, абмежаванае, мы раскажам сёння толькі пра тое, з якога цеста і як робяць паштэцікі. У наступным жа нумары вы зможаце прачытаць, якія фаршы можна зрабіць для паштэцікаў.

Вельмі простым з'яўляецца цеста, як *на бліны*. 2 шклянкі мукі, 2 сырыя яечкі, крыху солі, цертай мушкаталовай галкі і летняй вады дакладна размяшаць (найлепш драўлянай лыжкай). Летняй вады павінна быць столькі, каб цеста лілося з лыжкі тонкім струменьчыкам. Невялікую патэльню добра падагрэць, змазаць кавалачкам саланіны, ліць пакрысе цеста, так, каб патэльня пакрылася тонкім пластом, смажыць нядоўга з абодвух бакоў. Бліны складаць на талерку, перавернутую ўверх дном. Пасля мазаць бліны фаршам, скручваць іх, закладаючы берагі ў сярэдзіну, а пасля смажыць на гарачым тлушчы. Можна перад смажэннем яшчэ памачыць паштэцікі ва ўзбітым яечку і цёртай булцы.

На *дрожджавае цеста* трэба ўзяць паўкілаграма мукі, 2 сырыя яечкі, 2 дэка (20 г) дражджэй, лыжку масла ці маргарына, соль, крыху цертай мушкаталовай галкі; ну і летняе малако. Дрожджы распусціць у цёплым малацэ, дадаць лыжку мукі і паставіць у цёплым месцы на 10 мінут. Пасля ўліць «рошчын» у муку, дадаць яечкі і ўсё іншае, ды столькі цёплага малака, каб цеста было крыху радзейшае, чым на дрожджавы пірог. Замясіць цеста рукой ці драўлянай лыжкай, паставіць у цёплае месца, каб вырасла, а калі яно стане ўдвая большае, браць па кавалачку (як валошскі арэх), рабіць на далоні прадаўгаватыя блінчыкі, накладаць фарш, дакладна залепліваць паштэцікі. Укладаць на бляшцы, змазанай тлушчам, накалоць кожны паштэцік відэльцам, змазваць бялком. Пячы ў не вельмі гарачай духоўцы.

Вельмі добрыя атрымліваюцца паштэцікі з *смятаннага цеста*. На 4 шклянкі мукі бяруць чвэртку масла ці маргарына, шклянку кіслай смятаны, соль, кмен. Дрожджы размяшаць у смятане, муку пасячы з тлушчам. Усё змяшаць, дадаць крыху солі і зрабіць гладкае цеста. З цеста зрабіць доўгія валікі, раскатаць іх на шырыню 5 см, на сярэдзіну (на ўсю даўжыню) налажыць фарш. Перавярнуць швом уніз, парэзаць на паштэцікі даўжыні 5 см. памазаць яечкам, пасыпаць кменам. Спячы ў духоўцы.

*Гаспадыня*





(Працяг са стар. 5)

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

Амерыканская місія ў Тэгеране знаходзілася на ўскраіне горада, тады як англійскае і савецкае пасольствы прымыкалі адно да аднаго. Дастаткова было з дапамогай высокіх шчытоў перагарадзіць вуліцу, стварыўшы часовы праход паміж дзвюма рэзідэнцыямі, каб увесь гэты комплекс утварыў адно цэлае. Такім чынам забяспечвалася бяспека савецкіх і англійскіх дэлегатаў, паколькі ўся тэрыторыя надзейна ахоўвалася. Калі б Рузвельт спыніўся ў памяшканні місіі ЗША, то ці яму, ці іншым ўдзельнікам сустрэчы давялося б па некалькі разоў у дзень ездзіць на перагаворы па вузкіх тэгеранскіх вуліцах, дзе ў натоўпе лёгка маглі б хавацца агенты трэцяга рэйха.

I.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ З РОВЕНСКІХ ЛЯСОЎ

Меліся звесткі, што гітлераўская разведка рыхтуе замах на ўдзельнікаў тэгеранскай сустрэчы. А праз чвэрць стагоддзя, на прэс-канферэнцыі ў Мадрыдзе, добра вядомы галаварэз Ота Скарцэні, якому Гітлер давяраў найбольш адказныя дыверсіі, пацвердзіў, што ён меў даручэнне выкрасці ў Тэгеране прэзідэнта Рузвельта.

У той час у Тэгеране мала хто ведаў, што важныя звесткі аб дыверсіі, якая рыхтавалася супраць кіраўнікоў трох дзяржаў, паступілі з далёкіх ровенскіх лясоў, дзе ў тыле ворага дзейнічала спецыяльная група пад камандаваннем вопытных савецкіх чэкістаў Д. Мядзведзева і А. Лукіна. У гэту групу ўваходзіў і легендарны разведчык М. Кузняцоў, які ажыццявіў нямала смелых аперацый у раёне акупіраванага нацыстамі горада Роўна. Дасканала ведаючы нямецкую мову, Кузняцоў выдатна іграў ролю обер-лейтэнанта вермахта Пауля Зіберта. Гітлераўцы доўгі час і не падазравалі, што за выглянцаваным аблічам гэтага высокага, заўсёды падцягнутага афіцэра-франтавіка скрываецца савецкі разведчык.

Мікалай Іванавіч Кузняцоў, ён жа Пауль Зіберт, заваяваў да сябе прыхільнасць штурмбанфюрэра СС фон Ортэля, які прыехаў у Роўна, і выведаў у яго важную тайну. Пачалося з таго, што фон Ортэль сам прапанаваў Зіберту перайсці на службу СС, дзе лёгка зрабіць кар'еру. Калі Зіберт і фон Ортэль зноў сустрэліся ў рэстаране пры афіцэрскім казіно ў Роўна, фон Ортэль напомніў яму аб сваёй прапанове і паабяцаў у хуткім часе пазнаёміць Зіберта з Ота Скарцэні, разам з якім яму, фон Ортэлю, трэба было выканаць нейкую аперацыю. Кузняцову не давялося доўга чакаць, каб даведацца, аб чым ідзе размова. Пад уздзеяннем каньяку фон Ортэль усё расказаў.

— Хутка я адпраўляюся ў Іран, — даверліва шапнуў ён. —

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВЕСТКІ З ЯЛОЎКІ

Ужо 21 год дзейнічае ў Ялоўцы (Беластоцкі павет) прадшколле. Ад 1963 года кіруе ім Леаніда Астапчэня. У гэтым годзе ў прадшколлі 12 асоб. Дзеці прабываюць у ім ад 8 гадзіны раніцы да 13 гадзіны. Пры дапамозе камісіі асветы, прэзідыума ГРН і сельгасгуртка зроблена тут пляцоўка для дзіцячых гульняў, абгароджана яна прыгожым плоцікам. Выхавацельніца Леаніда Астапчэня вядзе з дзецьмі цікавыя заняткі: вучыць іх лічыць, чытаць, расказвае казкі, водзіць у лес і ў поле па экскурсіі, развучвае з імі песні і г.д. На час капання бульбы пры школе быў створаны дзяцінец. У дзяцінцы прабывала 25 дзяцей па 9 гадзін у дзень. Такім чынам дзеці былі забяспечаны адпаведнай апекай, а іх бацькі маглі спакойна працаваць у полі.

* ✲ *

Мясцоваму гуртку вясковых гаспадынь можа дапамагаць у дзейнасці сельгасгурток. І дапамагае. Вясною закупіў на суму 8.000 зл. інспектавыя прылады. Жанчыны мелі нядрэнны даход з ранняй гародніны. Аднак гурток вясковых гаспадынь паступае так, каб сельгасгурток абмяжоўваў яму сваю дапамогу. Нават аб інспектавых прыладах жанчыны не задбалі так як трэба, і яны хутка згніюць у зямлі і гнаёўцы.

* ✲ *

Ажывілася праца ялоўскіх гарцэраў, калі апекавацца імі пачаў настаўнік Баляслаў Сурдацкі. Нядаўна ў школе адбылася ўрачыстая вечарына; была гарцэрская клятва, была цікавая мастацкая частка. Вечарына закончылася танцамі. Гарцэры таксама добра падрыхтаваліся да святкавання 53-ай гадавіны Вялікага Кастрычніка.

Добра працуе ў Ялоўцы гурток вясковай моладзі, якому шмат у працы дапамагае настаўнік Яўгень Лешчук. Моладзь арганізуе ў клубе забавы, займаецца спортам, шмат чытае. Адзін удзельнік «Алімпіяды ведаў аб Польшчы і сучасным свеце» выступаў нават на цэнтральных элімінацыях.

*Я. Цялушэцкі*




*Дарагое Сэрцайка!*

Ужо паўгода прайшло, як я пазнаёмілася з Віктарам. А было гэта так. Аднойчы я паехала да сваёй сястры, якая выйшла замуж у горад. Сястра са шваграм выбіраліся на баль і забралі з сабой мяне. Вядома, я дзяўчына вясковая, таму вельмі ж мяне зацікавіла гарадская забава. Сястра прыгожа мяне апранула (а кажуць, што я сама прыгожая і зграбная), зрабіла прыгожую прычоску і мы пайшлі ўсе разам на забаву. Ад пачатку на забаве звярнуў на мяне ўвагу прыгожы высокі хлапец. Папрасіў мяне танцаваць. Ён сядзеў пры століку з мужчынамі і дзвюма жанчынамі. Папрасіў да століка і мяне, але сястра са шваграм не пазволілі. Так мы і прагулялі цэлы вечар. Віктар папрасіў у мяне адрас. І так пачалося. Я часта прыязджала да сястры, да нас прыходзіў Віктар і мы ішлі ў кіно, або сядзелі ў хаце, або ішлі (вельмі рэдка) на забаву. Я пакахала Віктара. Усё пра яго думала, чакала той хвіліны, калі з ім сустрэнуся. Аднойчы Віктар прыехаў нават і да маіх бацькоў. А нядаўна Віктар прыйшоў трохі падхмелены. Мы пайшлі на каву ў кавярню, і там ён мне сказаў, што ён жанаты. Думала я, што ўпаду з крэсла. Калі апрытомнела, спытала яго, чаму ён так паступіў. Віктар мне сказаў, што ён ад пачатку пакахаў мяне, а паколькі з жонкаю жыве дрэнна, то напэўна развядзецца і ажэніцца са мной. Віктар мае двое дзяцей. Самому больш трыццаці год, а мне 20 год. Я аб гэтым сказала сястры (бацькам баюся казаць). Сястра са шваграм катэгарычна забаранілі Віктару прыходзіць, а таксама мне з ім сустракацца. Нават забаранілі выходзіць куды-небудзь у горад, калі я прыеду да іх. Я вельмі перажываю, бо Віктар піша да мяне лісты і просіць, каб сустрэцца. Што рабіць, я ж кахаю Віктара.

*Галіна з Беласточчыны*

*Галіна!* Веру, што ты кахаеш Віктара, але падумай, што Віктара кахаюць калі не тры асобы, дык прынамсі дзве — гэта значыць яго двое дзяцей. У кожнай сям'і бываюць крызісы, аднак яны ў большасці выпадкаў мінаюць і ізноў усё ўладкоўваецца, як трэба. Відавочна, так сталася і ў сям'і Віктара. А мо ў ёй пануе лад, толькі Віктару захацелася пагуляць. І так бывае, нават часта. Ён абяцае, што развядзецца з жонкаю. Але ж гэта ўсё загадкавае, ён жа ў даны момант муж і бацька, дык нашто ты, Галіна, маеш уваходзіць у іхнюю сям'ю? Там ты нікому не патрэбная, баюся, што і Віктару ты не патрэбная як жонка. Фліртаваць — лёгкая справа, але разбіць сямейнае гняздо, якое будавалася не адзін год, павер мне, гэта вельмі цяжкая справа. Таму раю табе не адпісваць на яго лісты і не сустракацца. Ведаю, што гэта цяжка, але час гоіць раны, нават раны на многа большыя. Старайся заняцца працай, больш бывай у кампаніі. Усё праміне, а ты пачуешся, як нованароджаная і напэўна сустрэнеш у жыцці другое каханне, больш чыстае і сапраўднае.

*Сэрцайка*



## У ГРАМАДЗЕ ШЫМКІ

На тэрыторыі ГРН Шымкі (Беластоцкі павет) знаходзяцца 462 гаспадаркі з 4-ма тысячамі гектараў зямельных угоддзяў. 2000 гектараў займае ворная зямля, 966 га — лугі і 339 га — пашы. Пасевы жыта займаюць тут 637 га, аўса 428 га, а бульбы — 481 га. Ураджай чатырох асноўных збожжавых культур даў 17,3 цэнтнераў з 1 га. Сяляне ўжываюць усё больш штучных угнаенняў. Найбольш мінеральных угнаенняў купляюць сяляне з Шымкаў, Буд і Цісоўкі. У грамадзе аднаўлена насенне аўса і ячменю. У барацьбе з пустазеллем высеяны хімічныя сродкі на 190 гектарах. Добра тут выконваецца план кантрактацыі збожжавых культур. Ужо на 1970/71 год закантрактавана 269,2 га жыта і аўса, што складае 108 працэнтаў плана. Штогод узрастае тут колькасць кароў. Найбольш гадуюць іх жыхары вёсак: Шымкі, Цісоўка і Буды. У мінулым годзе жыхары шымкаўскай грамады прадалі дзяржаве 1206600 літраў малака і 63500 кілаграмаў валавіны. На ўзрост колькасці малака мае ўплыў загаспадараванне 1154 га лугоў і сенажацяў і прымяненне 220 кг НПК у чыстым складзе на 1 га. Сена дае ўраджай 80 цэнтнераў з 1 га. Усе працы пры ўборцы травы амаль поўнасцю змеханізаваны. Гаспадары карыстаюцца 93 коннымі і 7 трактарнымі касілкамі.

З думкай аб выгодзе для сялян будуецца ў Шымках склад штучных угнаенняў. Працу ў полі аблягчае МБМ, якая дзейнічае тут ад 1968 года. МБМ налічвае 16 трактараў з камплектамі падвесных сельскагаспадарчых машын. Мае таксама грузавік. Апошнім часам МБМ загаспадарыла 100 гектараў зямлі з дзяржаўнага фонду і засеяла яе жытам і пшаніцай. Пад пасевы высеяна 400 кг НПК у чыстым складзе на 1 га.

У грамадзе Шымкі да перадавых гаспадароў належаць Міхась Раецкі з Шымкаў, Мікалай Цімашук с. Мікалая з Будаў, Васіль Бура з Цісоўкі, Мікалай Хлябіч і Мікалай Гогель з Лявонавіч, Кастусь Бяленя і Віктар Салавей з Луплянкі.

*Янка Нараўскі*

## І свінні любяць чысціню

У нас адкормліваюць свіней бульбай. Але, на жаль, не ўсе ўмеюць адкормліваць. У аднаго гаспадара гэта добра выходзіць, у другога дрэнна. Адзін за некалькі месяцаў адкорміць вепрука, другі ўвесь год на гэта патраціць. І тады людзі наракаюць, што свінні дрэнныя, што не шыхуюць. Вельмі часта так здараецца, што вяпрук добрага гатунку не папраўляецца, і ў гэтым вінаваты гаспадар. Чаму? Таму, што гаспадару здаецца, што свіння павінна есці ўсё, што ёй непатрэбна чысціня. І так бывае, што гаспадар не мые бульбы і варыць яе з пяском. А пясок, калі пападае ў страўнік, выклікае панос. Захворванне страўніка выклікае таксама кармленне з бруднага карыта, у якім многа розных шкодных мікробаў.

Многім здаецца, што калі свіння любіць рыць зямлю, капацца ў брудах, дык і ежа для яе можа быць брудная, кіслая, нясвежая, у бруднай пасудзе. Не, свіння любіць чысціню, і ежа для яе павінна быць свежая, чыстая, у чыстым посудзе. Гэта гарантуе ёй добры апетыт і здароўе, а перш за ўсё здаровы страўнік.

Таксама і логава свінскае павінна быць сухое. Неабходна туды часта дакідаць чыстай саломы.

*Міхась Матвеюк*
*Бельск Падляшскі*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Bicz Boży" (polski), 17—18. „Ambicja" (rumuński), 19—20. „Gra" (polski), 21—22.

**ДУБІНЫ**

„Czekam w Monte Carlo" (polski), „Czarny wiatr" (meksykański), 21—22.

**НАРАЎКА**

„Jezioro starej sowy" (NRD), „Ruchome piaski" (polski), 18—22.

**НАРВА**

„Każdemu swoje" (włoski), „Paragon gola" (polski), 18—22.

**ЧЫЖЫ**

„Dziewczyna na rozdrożu", „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 18—22.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Kobieta wąż" (ang.), „Tajemniczy mnich" (radz.), 18—22.

**АРЭШКАВА**

„Topkapi" (USA), „Więzy" (węgierski), 21—22.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**ОРЛЯ**

„Marynarz Czyżyk" (radz.), „Mściciel z przeklętej góry" (jugosł.), 18—22.

**РАЙСК**

„Śmierć Indianina" (rumuński), „Naczelnik Czukotki" (radz.), 18—22.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Tak się zaczęło" (NRD), 17—18. „Ludzie i bestie" (radz.), I i II cz. 19—22.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Hasło bez odzewu" (bułg), 17—18. „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 19—20. „Powrót rewolwerowca" (USA), 21—22.

**ШУДЗЯЛАВА**

„Tylko jedno życie" (polski), „Więzy" (węgierski), 19—22.

**ЯНАЎ**

„Testament gangstera (franc.), 18—22.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Hatari" (USA), 17—18. „Szlacheckie gniazdo" (radz.), 19—20. „Powrót rewolwerowca" (USA), 21—22.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Grymasy" (węgierski), 17—18. „Dywersanci" (jugosł.), 19—20. „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 21—22.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Marysia i Napoleon" (polski), „Daleko od słońca" (jugosł.) 18—22.

**НОВЫ ДВОР**

„Dzika Elżbieta" (czeski), „Nowy" (polski), 21—22.

У канцы снежня там збіраецца Вялікая тройка. Мы паўторым скачок у Абруца! Толькі гэта будзе далёкі скачок! Мы ліквідуем Вялікую тройку і павернем ход вайны. Мы паспрабуем выкрасці Рузвельта, каб фюрэру лягчэй было згаварыцца з Амерыкай... Вылецім некалькімі групамі. Людзей рыхтуем у спецыяльнай школе ў Капенгагене...

Фон Ортэль невыпадкова ўпамянуў Абруца. Ён меў на ўвазе праведзеную Ота Скарцэні па ўказу Гітлера аперацыю па выратаванню Мусаліні пасля крушэння фашысцкага рэжыму ў Італіі ў ліпені 1943 года.

Калі распрацоўвалі план дыверсіі супраць удзельнікаў Тэгеранскай канферэнцыі, якая атрымала кодавую назву «Далёкі скачок», выбар зноў паў на Скарцэні. Але тут любімцу Гітлера не пашанцавала.

Даведаўшыся ў фон Ортэля пра дыверсію, Кузняцоў паспяшаўся ў атрад Мядзведзева. Там была складзена радыёграма, якая разам з апісаннем партрэта фон Ортэля, зробленым Кузняцовым, адразу ж паляцела па эфіру ў Маскву. Гэта радыёграма пацвярджала аналагічную інфармацыю, атрыманую савецкай разведкай з іншых крыніц. Неадкладна былі прыняты ўсе неабходныя меры, каб абясшкодзіць нацысцкіх дыверсантаў. Але ўсё ж трэба было захоўваць найвялікшую пільнасць і асцярожнасць, каб засцерагчы ад небяспекі ўдзельнікаў тэгеранскай сустрэчы, паколькі нацысты маглі мець і іншыя варыянты замаху. У той час іранская сталіца кішэла бежанцамі з усёй Еўропы. Сярод іх было мноства гітлераўскіх агентаў. Шырокія магчымасці для іх у Іране ствараліся не толькі своеасаблівымі ўмовамі гэтай краіны, але і тым апякунствам, якое аказваў немцам стары Рэза-Шах, што адкрыта сімпатызаваў Гітлеру. Урад Рэза-Шаха стварыў для нямецкіх камерсантаў і прадпрыемцаў вельмі спрыяльныя ўмовы, якімі карысталася гітлераўская разведка, насадзіўшы ў Іране сваіх рэзідэнтаў. Калі ж пасля пачатку вайны ў Іран хлынула хваля бежанцаў, гестапа выкарыстала гэта, каб узмоцніць сваю агентуру ў гэтай краіне, якая пасля адыгрывала важную ролю як перавалачны пункт для англа-амерыканскіх паставак у Савецкі Саюз. І невыпадкова, што старому Рэза-Шаху давялося адрачыся ад прастола і рэціравацца ў Паўднёвую Афрыку, перш чым былі створаны ўмовы для аднаўлення дружалюбных адносін паміж Іранам і ўдзельнікамі антыгітлераўскай кааліцыі.

Але і пасля гэтага гітлераўская агентура працягвала тайна дзейнічаць у Іране, і гэта рабіла амаль што рэальнай магчымасць усялякіх правакацый. Гітлераўцы загадзя паклапаціліся аб тым, каб і на далейшы час захаваць у Іране сваю тайную агентуру. Ёю кіравалі шматвопытныя афіцэры сакрэтнай службы. Адзін з іх, Шульцэ-Хольтус, займаючы пасаду сакратара германскага консульства ў Таўрызе, у сапраўднасці быў рэзідэнтам абвера (ваеннай разведкі). Калі ўрад Ірана прыняў рашэнне аб высылцы з краіны прадстаўнікоў гітлераўскай Германіі, Шульцэ-Хольтус не рэпатрыіраваўся разам з іншымі нямецкімі дыпламатамі. Ён схаваўся і на працягу некалькіх гадоў жыў на нелегальным становішчы.

Адпусціўшы сабе бараду, пафарбаваўшы яе хной і надзеўшы адзенне мулы, Шульцэ раз'язджаў па краіне, вярбуючы агентаў сярод мясцовых рэакцыянераў. Летам 1943 года, калі Шульцэ застаўся жыць у кашкайскіх плямён у раёне Ісфахана, да яго была скінута група парашутыстаў з радыёперадатчыкам, што дало Шульцэ магчымасць устанавіць двухбаковую сувязь з Берлінам. Гэта былі людзі са спецыяльнай школы Ота Скарцэні.

Шульцэ падтрымліваў таксама кантакт з тайным гітлераўскім рэзідэнтам, які арудаваў у раёне Тэгерана. Гэта быў нейкі Маер, з СД (служба бяспекі). Знаходзячыся ў падполлі, Маер на працягу трох месяцаў хаваўся на армянскіх могілках у Тэгеране: ён стаў іранскім батраком і працаваў магільшчыкам. Пасля, разгарнуўшы цэлую шпіёнскую сетку, Маер падбухторваў качэўныя плямёны Ірана да паўстання супраць цэнтральнага ўрада, арганізоўваў дыверсіі і акты сабатажу. Ён прытрымліваў радыёсувязь з Берлінам, і незадоўга да Тэгеранскай канферэнцыі да яго ў раён іранскай сталіцы былі скінуты шэсць парашутыстаў-дыверсантаў.

(Працяг будзе)

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7107 W-4

